АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

31 СНЕЖНЯ 1999 года – 6 СТУДЗЕНЯ 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ

№53 (245)



*Віншуем усіх чытачоў з надыходзячым Новым Годам!*
*Жадаем добрага здароўя, цеплыні, шчасця!*

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 1 студзеня | | Нядзеля, 2 студзеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -6 – -8°C | -3°C | -11°C | -3 – -5°C |
| Удзень | -4 – -7°C | -3°C | -8°C | -2 – -4°C |




## Навагоднія падарункі ад ...

**ІВЯНЕЦ**

### ... міністра

Міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Вольга Даргель наведала навагодні ранішнік у дзіцячым доме–інтэрнаце.

У падарунак прывезла трэнажорны апарат коштам 340 мільёнаў рублёў. Таксама брала з сабою "групу падтрымкі": кампазітара Ігара Лучанка, спявачку Стэлу і іншых прадстаўнікоў беларускай эстрады.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

**МІНСК**

### ... абласной «вертыкалі»

У наступным годзе на будаўніцтва Мінскі аблвыканком выдаткуе на вобласць 13 трыльёнаў рублёў. З іх 9,1 пойдзе на крэдытаванне сельскага будаўніцтва. І толькі 3,9 – на падтрымку жыллёва–будаўнічых кааператываў, "індывідуалаў".

Лепшымі ў вобласці прызнаныя аддзелы моладзі Маладзечанскага гарвыканкома і Вілейскага райвыканкома.

*Аддзел інфармацыі.*

**ВАЛОЖЫН, АШМЯНЫ, МЯДЗЕЛ**

### ... сувязістаў

У Валожыне ўведзеная новая АТС на 300 нумароў. Шчасліўчыкі могуць ужо віншаваць па тэлефоне сваіх сяброў у навагоднюю ноч.

У івянецкім аддзяленні электрасувязі ўстаноўлены аўтаматызаваны перагаворны пункт. З кабінкі можна патэлефанаваць у любую кропку свету.

Адрамантавалі ашмянскі тэлеграф. Акрамя еўрарамонту ў памяшканнях, устанавілі 6 новых міжгародніх тэлефонных апаратаў. Змянілі і начынне тэлеграфа: завезлі і зманціравалі новае абсталяванне.

У мядзельскім аддзяленні сувязі можна за 750 рублёў заказаць на дом Дзеда Мароза. Прыедзе той, на жаль, без падарункаў (калі папярэдне не ўручыць іх дзядулі).

*Наталля ШТЭЙНЕР, Святлана ВЯЛЬСКАЯ, Алесь ВЫСОЦКІ.*

**ВІЛЕЙКА**

### ... ад немцаў

500 нямецкіх марак, атрыманых ад дабрачыннага канцэрта ў Оберхаўзене (Германія) перададзены віляйчанам на правядзенне навагодніх ранішнікаў для дзяцей. Гэтай сумы хапіла, каб "ахапіць" дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, дзяцей–інвалідаў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*



## Нашы елкі паехалі ў Расію,
## таму, напэўна, іх нялёгка набыць дома



На Цэнтральную плошчу Маладзечна прывезлі елкі.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. Попыт на елкі павялічваецца штогод. Сёлета плануецца рэалізаваць 10 тысяч прыгажунь. Прадаюць іх традыцыйна на Старым Месце, Цэнтральнай плошчы (за месца на калгасным рынку трэба плаціць). Каштуюць елкі ў залежнасці ад памеру. Маленькія ідуць па 200 тысяч. Праўда, і тут з'явіліся перакупшчыкі. З "другіх рук" цана за елкі даходзіць да мільёна і болей. І чым бліжэй да свята, тым больш расце цана і чэргі.*

*Сёлета маладзечанскія елкі паехалі і ў Расію. Як сказаў адзін з камерсантаў, на іх можна рабіць добры бізнес: здаваць у Расіі партыямі, за валюту.*

*Аддзел інфармацыі.*

**З НАТУРЫ**



*Хрысціне Гудзель 2 гады. Разам з маці яна ў перадсвяточныя дні пайшла на калгасны рынак. І каб дачцэ не сумна было хадзіць па радах, ёй купілі серабрыстую мішуру.*

*Хрысціна верыць, што Дзед Мароз прыйдзе да яе і выканае ўсе жаданні.*

## Зімовыя канікулы праводзім на «Лысцы»

*МАЛАДЗЕЧНА. Горка ў цэнтральным парку была і застаецца месцам адпачынку дзяцей на зімовых канікулах. Некалькі пакаленняў упарта называюць яе "Лыскай". Можа, таму, што горка лысая – малавата на ёй дрэў і кустоўя.*

*Калісьці на горцы стаяла вялізная жалезная галава Ільі Мурамца. Там жа, наверсе, праводзіліся святы. Закопвалі драўляны слуп, падвешвалі прыз, і на масленіцу жадаючыя спрабавалі гэты прыз зняць.*

*Цяпер правядзенне свята перанеслі пад "Лыску": там пабудаваная спецыяльная пляцоўка, месцы для гледачоў. А сама горка выкарыстоўваецца толькі ў якасці месца актыўнага адпачынку.*



*Дзяніс Панасенка, Андрэй Летуноў, Павел Усцінаў, Іван Крылоў, Аляксей Блезе. Хлопцам не пашчасціла. Але ці можна назваць гэта нешанцаваннем?*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*конкурс*

## Пазнай Дзеда Мароза





Задоўга да Новага года Дзяды Маразы, быццам спартсмены, распачалі трэніроўкі ва ўзмоцненым рэжыме. Даставалі з шафаў і лапілі касцюмы, падклейвалі бароды. Акрамя падрыхтоўкі рэквізіту, успаміналі навагоднія песні, жарты, абкатвалі новыя конкурсы. У гэтыя ж дні Дзяды Маразы працуюць па поўнай праграме. Кожны – па асабістым графіку, у сілу магчымасцяў і здольнасцяў.

**Чытачы "РГ" могуць убачыць Дзеда Мароза ў сябе дома на "стары Новы год". Бясплатна, з віншаваннямі і фірменным падарункам ад рэдакцыі. Дзеля гэтага трэба паўдзельнічаць у конкурсе. І як мага хутчэй прыслаць у рэдакцыю ліст ці паштоўку. Першы дакладны адказ – пераможны.**

За пару дзён да двухтысячнага года мы "адлавілі" некаторых Маразоў. Сфатаграфавалі іх без грыму і за работай. Трэба адгадаць Дзядуль у касцюмах, састыкаваць казачнае аблічча з фотакарткай без грыму. Спрабуйце, дасылайце варыянты. Поспехаў вам у гэтай творчай справе.

*Рэгіянальны ДЗЕД МАРОЗ.*

*2-я старонка*

АПТЫМІСТЫ

# Сяргей Гудовіч удзячны за клопат

МАЛАДЗЕЧНА. Год таму разам з Сяргеем Гудовічам мы ўпрыгожвалі ёлачку, гутарылі пра жыццё. Нагадаю, Сяргей трапіў у аўтамабільную аварыю, стаў інвалідам–калясачнікам. Пры нашай сустрэчы ён з аптымізмам глядзеў на жыццё. І прапанаваў змясціць у газеце ягоны дамашні нумар тэлефона – каму патрэбная маральная падтрымка, хай тэлефануе.

За год ён не згубіў веру ў сябе, жыццё, бадзёра выглядае, Дзве важныя падзеі адбыліся ў ягоным жыцці. Разам з **Вольгай Мяцеліцай** стварыў сям'ю і атрымаў пакой у інтэрнаце па вуліцы Касманаўтаў, 23. За жыллё вельмі ўдзячны мясцовай уладзе, асабліва намесніку старшыні гарвыканкома **Яфіму Ідэльчыку**.

Гудовіч разам з трыма такімі ж калясачнікамі арганізуе прабег Маладзечна–Эслінген. Плануецца яго здзейсніць напрыканцы вясны. Ужо знойдзена ўзаемапаразуменне з кіраўніцтвам горада. У перспектыве арганізацыя сумесна з немцамі нешта накшталт клуба. І надалей – наладзіць нейкую вытворчасць, каб стварыць рабочыя месцы для інвалідаў–калясачнікаў.

Сяргей Гудовіч звяртаецца да жыхароў рэгіёна: можа, у каго ёсць прапановы па арганізацыі прабегу. Справа ж новая. Высылайце лісты на адрас рэдакцыі з паметкай "для С. Гудовіча".

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Сяргей Гудовіч.*

ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА.

НОВАЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

# Калі пачынаецца трэцяе тысячагоддзе?

Чым бліжэй новае стагоддзе і новае тысячагоддзе, тым часцей у друку з'яўляліся і з'яўляюцца загалоўкі такога тыпу: "Аўтамабіль 2000 года", "Нашым дзецям жыць у 2000 годзе", "На парозе 2000 года". Пры гэтым маецца на ўвазе, што аўтамабіль новага стагоддзя і тысячагоддзя і дзень нараджэння ў 2000 годзе – гэта дзень нараджэння ў першым годзе новага стагоддзя.

Але гэта няправільна. Парог 2000 года будзе ў ноч з 31 снежня 1999 года на 1 студзеня 2000 года. Але гэта яшчэ не пачатак новага стагоддзя! Не можа ж надысці новае стагоддзе, калі прай-шло толькі 99 гадоў стагоддзя папярэдняга. 2000 год нашай эры – гэта апошні год стагоддзя і тысячагоддзя. Апошні год стагоддзя заўсёды год з нулямі на канцы. Такія гады называюць векавымі (1000, 1200, 1700, 2000), і яны звычайна не праходзяць незаўважаныя. Нічога не зробіш – магія лічбаў з нулямі! Але 1 студзеня адбудзецца сустрэча з апошнім годам XX стагоддзя. А юбілеі адзначаюць, калі юбілейны год завершыцца, г. зн., пройдзе "круглы" лік гадоў.

Мы не памыляемся ў падліку дзесяткаў гадоў; памылкі пачынаюцца, калі пераходзім да стагоддзяў (тысячагоддзяў). Але ж і стагоддзі, гэтак жа, як і дзесяцігоддзі, пачынаюцца з "першага" года (601, 1001, 1401, 2001).

Магчыма, першы (прынамсі, у Расійскай імперыі) памылку ў вызначэнні даты святкавання новага стагоддзя ўнёс Пётр I. Паводле яго ўказа аб увядзенні на Русі летазлічэння "ад нараджэння Хрыстовага", загадвалася асабліва ўрачыста адзначыць як пачатак новага стагоддзя 1 студзеня 1700 года...

Потым гэтая памылка, выкліканая, відаць, "магіяй нулёў", сустракалася неаднаразова – не толькі ў журналісцкіх і літаратурных публікацыях, але і ў сур'ёзных навуковых даследаваннях.

Дык калі ж пачнуцца XXI стагоддзе і III тысячагоддзе? Пачнуцца яны ў поўнач з 31 снежня 2000 года на 1 студзеня 2001 года.

НАВАГОДНІ КОНКУРС

# Пазнай Дзеда Мароза

Умовы конкурсу на 1–й старонцы



## Вытворчы Дзед Мароз

Работнік ВА "Беларускага таварыства інвалідаў па зроку" у Маладзечне **Уладзімір Здankевіч**. Стаж 12 гадоў.

– Люблю спяваць, іграю на многіх музычных інструментах, таму ў сцэнарыі шмат песень. Штогод імкнуся рабіць новы сцэнарый. Каб неназалялі. А кур'ёзаў хапае. Летась выйшаў да дзяцей работнікаў нашага прадпрыемства без меха з падарункамі. Спахапіўся толькі тады, калі іх трэба было даставаць. Сітуацыю абыграў, і Баба Яга на мятле прывезла мой мех.

## Студэнцкі Дзед Мароз

Студэнт Беларускага Дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта **Мікалай Тамковіч.** "Марозаўскі" стаж 3 гады. Скончыў СШ №11 у Маладзечне. Падчас вучобы жыве ў Мінску. Працуе ў сталічных залах.

– Маладзечанскія сябры пачулі, што ў Мінску я падпрацоўваю Дзедам Марозам, і запрасілі ў той жа якасці да сябе. Ужо за сталом сутыкнуўся са сваёй "унучкай". Правялі праграму, пагаварылі. На здзіўленне, знайшлі са Снягуркай шмат агульных сяброў. Як сталася, яна – суседка маіх бацькоў, з якой заўсёды пры сустрэчы вітаюся. Вось што грым можа нарабіць.





## Лясны Дзед Мароз

Старшы выхавальнік летніка "Лясны гарадок" **Сяргей Мазурэнка**. Стаж 12 год. Пачынаў "марозіць" на Нарачы ў "Зубраняці".

– Летась са Снягуркай **Святланай Тоўкач** хадзілі па кватэрах віншаваць маладзечанскія сем'і ад Мінскай абласной станцыі пералівання крыві. Нашую папулярнасць адчуў у поўнай меры – літаральна нагамі абараняліся ад жадаючых запрасіць нас да сябе. Па мільёне ў кішэні клалі. 5 бутэлек гарэлкі адна сям'я спрабавала ў мех засунуць (за выклік да сябе). Гэта было за тры гадзіны да Новага года ў інтэрнатах па вуліцы Касманаўтаў. Аднак мы не спакусіліся. Жорсткі графік, ды і вадзіцель на вуліцы нерваваўся, каб хутчэй усё скончыць і за стол сесці.

## Тэатральны Дзед Мароз

Акцёр Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка", што ў Маладзечне, **Юрый Свірыда.** Стаж 4 гады. Абслугоўвае дзіцячыя навучальныя ўстановы нашага рэгіёна.

– Мне заўсёды даводзіцца пераўвасабляцца. У спектаклі "Пакінуты ўсімі" іграў індыка і "улюлюкаў", як індык. Цяпер вось я – Дзед Мароз. У маладзечанскай СШ №1 нейкае цыганя вырашыла праверыць, ці сапраўдны я. Бараду адарвала. А ў доме "новага" беларуса давялося выконваць адразу тры ролі: Мароза, мамы і таты. Трое дзетак, а іх бацькі так пасвяткавалі, што знепрытомнелі.



## Вясковы Дзед Мароз

Спецыяліст па тэхнічных сродках Дома культуры Вілейкі **Васіль Капцюг**. Яшчэ ён – музыкант, спявак і заўзяты рыбалоў. "Марозаўскі" стаж 5 гадоў. Сфера абслугоўвання – ДК, клубы раёна, малаказавод, ПМК, філіял Белбізнесбанка.

– Выступалі на ПМК–1. Праграму адпрацоўвалі з агеньчыкам. Бачылі, што дзеці аж пішчаць ад задавальнення. І вось я неяк замарудзіў з падарункамі. Дзеці касцюмы абараняюць, вершы расказваюць, танцуюць, песні спяваюць. І ў рот мне глядзяць. Маўляў, дзе ж падарункі? Не ведаю, што на мяне найшло. З задуменнасці вывела Баба Яга. Падскочыла – і мятлой па спіне: "Дзед Мароз, цукеркі давай!". Усе падумалі, што так трэба па сцэнарыі.



## Жаночы Дзед Мароз

Работнік культурна–рэабілітацыйнага цэнтра ў Маладзечне **Марына Няхайчык**. Стаж 8 год.

– Ніколі б не падумала, што буду іграць Дзеда Мароза. А ведаеце, да мяне дзятва ставіцца больш даверліва, чым да Маразоў–мужчын. Усё пачалося так: у нас, культработнікаў, не было мужчыны на ролю Дзеда. Вырашылі цягнуць жэрабя – каму каго іграць. А наогул, творчы чалавек павінен умець усё. Калягін іграе "даму" у фільме "Здравствуйте, я ваша тётя". Такіх прыкладаў шмат. І наадварот таксама.



## Прыватны Дзед Мароз

Музыкант **Віктар Піліпенка**. Стаж 4 гады. Працуе па выкліках. Любімая прымаўка: "Было ў Віці хобі – ён грошыкі любіў".

– Летась у прыватным сектары да мяне прычапіліся сабакі, калі ў касцюме ішоў віншаваць сябра. Дарэчы, хаджу толькі да знаёмых; грошы не бяру. Мае візіты – штосьці накшталт "капількі добрых спраў". За год кагосьці абразіў, падмануў. Такім чынам кампенсую дабрынёй і ўвагай. Сёлета мяне суправаджае мой чатырохногі сябра пароды "баксёр".



***Нагадваем, што выйграе той, хто першы дакладна складзе ўсе 7 варыянтаў: Дзед Мароз у грыме і без грыму.***

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ. Фота аўтара.*





















ЮБІЛЕЙ

# На пасадзе галоўнага ўрача РЦГіЭ чалавек, які ў 2000-м годзе адзначыць дзень нараджэння ў 15-ы раз



Галоўны ўрач маладзечанскага РЦГіЭ Віктар Белік.
ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. Галоўны ўрач цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Віктар Белік** — Дракон. Толькі па гараскопе, зразумела. Хаця работа, напэўна, мае на ўвазе менавіта "драконаўскія" якасці і ўласцівасці.*

У Маладзечна ён прыехаў з Украіны 20 год таму і цяпер штогод наведвае родныя мясціны каля Міргарада (памятаеце гогалеўскія Сарочынскія кірмашы?). Сёлета, дарэчы, сустракаўся з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам. Работа на пасадзе галоўнага ўрача РЦГіЭ разнастайнасцю не вылучаецца: за ўвесь час (з 1973 года) санітарна–эпідэміялагічнае становішча на Маладзечаншчыне было спакойнае.

**– Як для вас год прайшоў?**

– Змінусавалі. Што, тым не меней, добра: захворваемасць знізілася.

**– Дзень нараджэння вам прыпадае адзначаць раз на чатыры гады – 29 лютага. Мусіць, эканомія ёсць?**

– На гэтым не збяднееш. А адзначаць можна і штогод – 28 лютага ці нават 1 сакавіка.

**– Ці ведаеце каго яшчэ ў горадзе з "выпуску 29 лютага"?**

– Не. Хаця сустрэўся б.

"Рэгіянальная газета" мяркуе стварыць своеасаблівы "клуб 29 лютага". Жадаючыя сустрэцца ў ім – патэлефануйце ў рэдакцыю.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 23 снежня | 29 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 320 000,00 руб. | 320 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 165 192,27 руб. | 165 642,21 руб. |
| Літ | 79 978,01 руб. | 79 978,01 руб. |
| Рас. руб. | 11 960,00 руб. | 11 870,00 руб. |
| Злоты | 77 669,90 руб. | 77 575,76 руб. |
| ЕЎРА | 323 088,00 руб. | 323 968,00 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 745 000–770 000 руб. | 760 000–790 000 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 22.12 | 29.12 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 820 | **840** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3170 | **3650** |
| Сасіскі | 1 кг | 641 | **641** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 630 | **620** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 540 | **535** |
| Цукар | 1 кг | 235 | **240** |
| Алей | 1 л | 580 | **600** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | **–** |
| Маянэз | 250 г | 150 | **150** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 800 | **850** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | **300** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 220 | **220** |
| Лімоны | 1 кг | 630 | **720** |
| Бананы | 1 кг | 480 | **580** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | **160** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 400 | **500** |
| Масла | 1 кг | 1300 | **1300** |
| Тварог | 1 кг | 400 | **450** |
| Малако | 1,5 л | 180 | **180** |
| Бульба | вял.вядро | 600 | **650** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 700 | **700** |
| Яблыкі | 1 кг | 300-400 | **400** |
| Капуста | 1 кг | 90 | **90** |
| Морква | 1 кг | 150 | **180** |

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

# У Беларусі жыве 10 мільёнаў 45 тысяч чалавек

Колькасць насельніцтва краіны складае 10 мільёнаў 45 тысяч чалавек. Такія звесткі перапісу насельніцтва, які быў праведзены ў лютым.

У параўнанні з папярэднім перапісам 1989 года, насельніцтва Беларусі скарацілася на 107 тысяч чалавек, ці на 1%. Найбольшае зніжэнне адбылося ў Гомельскай вобласці – на 123 тысячы чалавек (7,4%). Найбольшы прырост зафіксаваны ў сталіцы – 4,6% (з 1 мільёна 607 тысяч да 1 мільёна 680 тысяч чалавек).

Гарадское насельніцтва складае 69% (у 1989 годзе – 65%), сельскае – 31% (у 1989 – 35%).

Згодна з перапісам, у краіне жывуць 4 мільёны 718 тысяч мужчын (47% ад агульнай колькасці насельніцтва) і 5 мільёнаў 327 тысяч жанчын.

Доля непрацаздольнага насельніцтва (жанчыны 55 год і старэй, мужчыны 60 год і старэй) павялічылася за 10 год з 19,5 да 21,5%, а асоб старэй за 65 год – з 10,3 да 13,2%. Па класіфікацыі ААН, насельніцтва лічыцца старым, калі доля асоб старэй за 65 год дасягае 7% і больш.

81,2% насельніцтва аднеслі сябе да беларусаў (у 1989 годзе – 77,9%), 11,4% – да рускіх (13,2), 3,9% – да палякаў (4,1), 2,4% – да ўкраінцаў (2,9), 0,3% – да яўрэяў (1,1), 0,8% – да іншых нацыянальнасцяў (0,8). Тры тысячы чалавек не ўказалі сваю нацыянальную прыналежнасць (у 1989 годзе – 0,1 тысячы). За 10 год больш прыкметна скарацілася колькасць яўрэяў – у 4 разы (са 112 да 28 тысяч чалавек) і ўкраінцаў – у 1,2 раза (з 291 да 237 тысяч чалавек).

На беларускай мове дома размаўляюць 36,7% насельніцтва рэспублікі, на рускай – 62,8%. Толькі 41% беларусаў размаўляе дома на беларускай мове.

Паводле інфармацыі Мінстата, «поўная распрацоўка матэрыялаў перапісу будзе ажыццёўленая на працягу 2000 года».

*Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.*

## Беспрацоўе

Колькасць беспрацоўных у рэгіёне характарызуе, ў першую чаргу, стан прамысловасці. На жаль, не атрымалася даць лічбы асобна па гарадах і раёнах – на вёсцы беспрацоўных мала (хаця іх там, мусіць, у прынцыпе быць не можа). Звесткі атрыманыя ў мясцовых цэнтрах занятасці насельніцтва.

| | | |
|---|---|---|
| **Маладзечна** (горад) | 1084 чал. | 1,78% |
| Маладзечанскі раён | 201 чал. | 0,90% |
| **Ашмяны** (горад + раён) | 142 чал. | 0,80% |
| **Валожын** (горад + раён) | 182 чал. | 0,90% |
| **Смаргонь** (горад + раён) | 1350 чал. | 4,00% |
| **Вілейка** (горад + раён) | 521 чал. | 1,60% |
| **Астравец** (горад + раён) | 342 чал. | 2,15% |
| **Мядзел** (горад + раён) | 280 чал. | 1,50% |

КУЛЬТУРА

## Гонар для гальшанцаў

ГАЛЬШАНЫ. Славутая мясціна на Ашмяншчыне даўно была вядомая сваімі ганчарамі. Напярэдадні свята ў памяшканні школы мастацтваў адкрылася выстаўка навучэнцаў аддзялення выяўленчага мастацтва. Дзеці пад кіраўніцтвам выкладчыцы Ларысы Шапашнікавай першы год авалодваюць ганчарным майстэрствам.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

СКАНДАЛ

# А–я–я–яй, забілі свінак ні за што, ні пра што...



*МАЛАДЗЕЧНА. У калгасе "Бацькаўшчына" 203 свінкі (па дадзеных пракуратуры) загадалі доўга жыць. 6199 кілаграмаў свініны маглі значна палепшыць наш святочны стол. Нават самая няспрактыкаваная гаспадыня з ног і хваста зварыць халоднае. На жаль, ногі, хвасты і іншыя часткі свінак дасталіся вясковым сабакам.*

На свінаферме вёскі Сычавічы адбыўся падзеж свіней. І не ад інфекцыйных захворванняў. Ветэрынарная служба калгаса вынесла рашэнне: ад няякаснага корму ўласнай вытворчасці; адсутнасці ў рацыёне камбікорму прамысловай вытворчасці.

"Бацькаўшчыне" відавочна не шанцуе. Год з 10 таму масава загінулі авечкі. Праўда, тады ад інфекцыі. І вось зноў страты на 1 мільярд 408 мільёнаў рублёў. Сума вельмі значная, асабліва з улікам невялікіх заработкаў калгаснікаў.

Можна шкадаваць работнікаў фермы і адміністрацыю калгаса: маўляў, карміць свіней не было чым, і гэтыя людзі – героі. Усё рабілі, нават уласныя кармы гатавалі, каб свінкі не заходзіліся ад голаду. Аднак, па дадзеных бухгалтэрыі гаспадаркі, за 11 месяцаў 1999 года пайшло на корм свінням больш за 220 тон малака. Гэтага хапіла б на 10 такіх свінафермаў.

Праўда, пакуль канчаткова не ўстаноўлена: было гэтае малако, ці рабіліся прыпіскі. Ды і наогул, ці сапраўды здохла такая колькасць свіней?

Спецыялісты Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю, міжрайпракуратуры, райветстанцыі праверылі стан жывёлагадоўлі ў "Бацькаўшчыне". Парушэнняў шмат.

На свінаферме ў Сычавічах поўнасцю адсутнічала абаграванне. Могільнік знаходзіўся недалёка ад фермы, без агароджы, тушы свіней не былі прысыпаныя нават зямлёй. Цікава тое, што ў могільніку, па словах супрацоўніка пракуратуры, знаходзілася не больш за 50 трупаў. У адказ на пытанне – дзе ж астатнія? – калгаснікі паказалі на вясковых сабак. Таксама павялі спецыялістаў у лес. Маўляў, туды рэшткі вывезлі. Аднак колькі ні блукала выязная камісія па лесе – "ні рожак, ні ножак" не знайшла. Па факце падзяжу міжрайпракуратурай узбуджаная крымінальная справа.

Знаёмы фермер гаворыць:

– Падзеж свіней у сучасных умовах – заканамернасць. У кастрычніку закупіў у адным калгасе свіней, дык тыя 2 дні да карыта не падыходзілі. Не маглі адагрэцца. Адзін аднаму на спіны ўзлазілі, нагадвалі гронкі вінаграду. Акрамя холаду, звычайна несвоечасова робяцца прышчэпкі. А кармы – без вітамінізаваных дабавак. Гэта ўсё звёны аднаго ланцуга.

**СУМНЫ ПРАГНОЗ.** ***Хутка пачнецца масавы падзеж скаціны, асабліва маладняку. Адно – няма чым карміць. Другое – забаронена здаваць яе на мясакамбінаты. На нарадзе ў Мінсельгасхарчы намеснік прэм'ер–міністра Аляксандр Папкоў даручыў міністру сельскай гаспадаркі і харчавання Юрыю Марозу інфармаваць кіраўнікоў мясакамбінатаў аб забароне прымаць на пераапрацоўку буйную рагатую скаціну вагой меней за 350 кілаграмаў.***

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*Скарыстаныя звесткі БелТА.*

ВЫХАВАННЕ

# «Супрацьпажарны» садок

ВІЛЕЙКА. Ёсць у горадзе не зусім звычайны дзіцячы садок №12: тут дзетак вучаць правілам пажарнай бяспекі. Што дае свой плён: у гэтым раёне Вілейкі сёлета не зарэгістравана ніводнага пажару па віне дзяцей, а на леташнім конкурсе–праглядзе супрацьпажарнага стану аб'ектаў адукацыі садок заняў першае месца.

Загадчыца садка **Святлана Карначова** гаворыць, што галоўная мэта – ахова жыцця і здароўя 165 дзяцей, якія тут выхоўваюцца. Вучаць іх па–рознаму: дапамагаюць казкі, спартыўныя мерапрыемствы.

Старшы педагог–выхавальнік **Надзея Русак** сцвярджае, што захворваемасць у садку самая нізкая. Штомесяц праводзіцца каля сарака мерапрыемстваў. Дзеці часта запрашаюць сваіх сяброў–пажарных да сябе ў госці, наведваюць пажарную часць "у адказ".

У канцы года традыцыйна праводзіліся выніковыя мерапрыемствы, дзе выхаванцы паказалі, чаму навучыліся. На разыграным прадстаўленні быў кот Леапольд са сваімі мышамі, былі песні, танцы, гульні–эстафеты, натуральна, інсцэніравалі казку "Кошкін дом".

– Калі дзіця ведае, што ў выпадку небяспекі трэба набраць "01", яно ніколі не разгубіцца, – гаворыць начальнік пажарнай часці **Іван Шалуха.** – За ўсю работу дзякую інспектару дзяржпажнагляду **Алене Альфер**, якая ў садку ўжо "прапісалася", без яе нічога не атрымалася б.

– У мяне толькі ідэі, яны не ўвасобіліся б у жыццё без **Алены Рогач** з МП "Рамонак", **Тамары Пастарнак** з МП "Лотас", **Алімпіяды Якуцінай** з МП "Утульнасць", **Тамары Міходзіч** з МП "Вілпрод".

*Юрый КАРПІЦКІ.*

З УСМЕШКАЙ

# Вілейчанін усміхаецца ў вус

### Пажару не будзе

Паехалі мужык з жонкай на базар у горад. На паўдарозе жонка ўспомніла:

– А я ж прас забыла выключыць!

– Нічога страшнага, – адказвае муж.

– Дык жа пажар будзе!

– Не будзе. Я забыўся краны на кухні закрыць.

### Адкуль вецер?

– Дзядзька Фама, у вашага суседа хата гарыць, – крычыць з парога хлопчык.

– А з якога боку вецер? – злазіць з печы дзядзька.

### Пазбавіўся ад мышэй

У Анціпа загарэлася клуня. А ён стаіць спакойна каля пажарышча, назірае за агнём.

– Чаго стаіш? – крычаць мужыкі. – Дабро тваё прападае!

– Дабро прападае... Але ж колькі мышэй там ляснула!

### Паглынальнік агню

Прыехалі ў вёску артысты з горада, сярод іх быў і цыркач. Фокуснік глытаў агонь на сцэне.

– Шкада, што яго не было тут на тым тыдні, калі загарэўся канец вёскі, – гаварылі ў зале. – От наглытаўся б агню ўволю.

### Гультай з гультаёў

Быў у вёсцы вельмі лядашчы чалавек. Клікалі яго Дубеем. Увесь час ляжаў на печы. Аднойчы ў яго загарэлася хата.

Убег сусед, крычыць:

– Дубей, твая хата гарыць!

– Ну і што, – ляніва гаворыць Дубей. – І ахвота табе крычаць?

*Падрыхтавала Алена АЛЬФЕР, інспектар дзяржпажнагляду, Вілейка.*

"НЕ УСЁ ЗОЛАТА, ШТО БЛІШЧЫЦЬ"

# Дракон

*У Дракона – лішак здароўя, жыццёвай сілы; адкрыты і чысты, як золата, ён не ўмее зласловіць, нават пазбаўлены элементарнай дыпаматыі. Хаця ён не наіўны, як добрая Свіння, ён даверлівы, яго можна заўсёды падмануць. Раздражняльны і ўпарты, Дракон нястрыманы на язык. Дракон можа дасягнуць вялікіх поспехаў у любой справе. На жаль, з такім самым поспехам ён можа пайсці на дрэнную справу і выйграе: ён пераможца. Дракон часта каханы, але сам рэдка кахае. Дракон рэдка бярэ шлюб маладым. Ён можа звязаць сваё жыццё з Пацуком, таму што закаханы Пацук выцерпіць усё, нават абыякавасць; са Змяёй. Певень–фанфарон з задавальненнем падбярэ крошкі яго поспехаў. Як у каханні, так і ў іншых справах, Малпа яго дапоўніць: яна прынясе яму сваю хітрасць, а ён ёй сваю моц. Саюз Дракона з Тыграм да спакою не прывядзе, але асабліва яму трэба пазбягаць неспакойнага Сабакі. У Дракона складаны характар, ён не задаволены, але ён будзе шчаслівы, нават калі не ўсвядоміць сваё шчасце ў апошняй фазе свайго жыцця, якое прынясе ўсё, што ён пажадае.*



ПАПУЛЯРНАЯ АСТРАНОМІЯ

## Прадказваем надвор'е для... сябе

Людзі часта сустракаюцца з цікавымі аптычнымі з'явамі, па якіх, з дастатковай ступенню ўпэўненасці, маглі б прадказваць надвор'е.

Найбольш распаўсюджаныя аптычныя з'явы – гало і вянцы. Першыя ўяўляюць сабой радужны круг вакол Сонца або Месяца з вуглавым радыусам каля 22°, радзей 46° і зусім рэдка 90°. Другія – тыя ж кругі, толькі радыусам 4–5°. Знешні край іх чырвоны, а ўнутраны – фіялетавы. Калі–нікалі назіраюцца вялікія кругі вакол асноўнага, але менш інтэнсіўныя, чым ён.

Гало можна адшукаць у перыста–слаістых аблоках, якія звычайна ўваходзяць у сістэму воблакаў цёплага фронту. Пра яго набліжэнне сігналізуе з'яўленне гало, якое ўзнікае ў тонкіх крышталічных аблоках на вышыні больш за 7 кіламетраў.

Летам, пры сонечным надвор'і, якое ўсталявалася, з'яўленне гало служыць прыметай пагаршэння надвор'я. Зімой, пры працяглым марозным надвор'і, з'яўленне гала прадвяшчае зніжэнне маразоў, пацяпленне і пераход да ападкаў.

Вянцы ўтвараюцца на больш дробных элементах воблака (кроплях або крышталях) на вышыні ад 2 да 5 кіламетраў. Калі спачатку назіраліся вянцы, потым яны прапалі і праз некаторы час з'явіліся зноў, – значыць умацоўваюцца крышталікі воблака і павялічваецца верагоднасць ападкаў. Наадварот, калі пасля гало з'явіліся вянцы, – элементы воблака выпарваюцца, памяншаюцца ў памерах, значыць, памяншаецца верагоднасць выпадзення ападкаў.

Калі–нікалі справа і злева ад Сонца або Месяца могуць быць бачныя пабочныя "Сонцы" (паргеліі) і пабочныя "Месяцы" (параселены). Для ўзнікнення гэтых з'яў патрэбныя спакойны стан атмасферы і моцнае выхалоджванне прыземнага слоя. З'яўленне несапраўдных Сонца і Месяца гаворыць пра антыцыклалічнае, устойлівае надвор'е з незвычайна спакойнай атмасферай і бязвоблачным небам.

З'яўленне сонечных крыжоў і слупоў (часцей зімой) вакол Сонца – таксама прымета ўстойлівага антыцыкланічнага надвор'я. Слупы – даволі частая з'ява пры моцных маразах. У ясныя месяцавыя ночы могуць назірацца і месяцавыя слупы.

**Іван СЯРГЕЙ.**

КОЛА ЖЫЦЦЯ

# За белым Драконам прыйдзе белая Змяя



У Паўднёва–Усходняй Азіі выкарыстоўваецца старажытны кітайскі каляндар з 60–гадовым цыклам сонечных год. У яго аснове ляжыць сонечна–юпітэрны 12–гадовы цыкл, кожны год у якім атрымаў назву татэмнай жывёлы. 12 год – гэта час, за які Юпітэр робіць поўны абарот вакол Сонца. Каляндар быў створаны так даўно, што памяць пра яго стваральнікаў захавалася толькі ў казачнай форме: у глыбокай старажытнасці імператар разаслаў запрашэнні жывёлам у свой нябесны палац. Чарговасць іх прыходу ў госці і адлюстраваная ў каляндары. Кошкі ў гэтым спісе няма, таму што сабака забыўся яе пабудзіць, што і прывяло да вечнай узаемнай варожасці. У кожным 60–гадовым цыкле адна і тая ж жывёла сустракаецца пяць разоў з прамежкамі ў 12 год; таму для ўдакладнення цыклу служыць колеравая сімволіка.

Чарговы цыкл усходняга календара пачаўся ў 1984 годзе і скончыцца ў 2043. Надыходзячы год Белага Дракона ўступіць у свае правы 5 лютага.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *Мыш* | *1 сіні* | *13 чырвоны* | *25 жоўты* | *37 белы* | *49 чорны* |
| *Карова* | *2 сіні* | *14 чырвоны* | *26 жоўты* | *38 белы* | *50 чорны* |
| *Тыгр* | *3 чырвоны* | *15 жоўты* | *27 белы* | *39 чорны* | *51 сіні* |
| *Заяц* | *4 чырвоны* | *16 жоўты* | *28 белы* | *40 чорны* | *52 сіні* |
| *Дракон* | *5 жоўты* | *17 белы* | *29 чорны* | *41 сіні* | *53 чырвоны* |
| *Змяя* | *6 жоўты* | *18 белы* | *30 чорны* | *42 сіні* | *54 чырвоны* |
| *Конь* | *7 белы* | *19 чорны* | *31 сіні* | *43 чырвоны* | *55 жоўты* |
| *Авечка* | *8 белы* | *20 чорны* | *32 сіні* | *44 чырвоны* | *56 жоўты* |
| *Малпа* | *9 чорны* | *21 сіні* | *33 чырвоны* | *45 жоўты* | *57 белы* |
| *Певень* | *10 чорны* | *22 сіні* | *34 чырвоны* | *46 жоўты* | *58 белы* |
| *Сабака* | *11 сіні* | *23 чырвоны* | *35 жоўты* | *47 белы* | *59 чорны* |
| *Свіння* | *12 сіні* | *24 чырвоны* | *36 жоўты* | *48 белы* | *60 чорны* |

ПРОСТА АНЕКДОТ

Ціхая вясковая ноч. Акуратныя хаткі, пах квітнеючых яблынь. У двары за сталом (крыху закусі, дзве пустыя бутэлькі з-пад самагона і адна паўпустая) сядзяць тры мужыкі. У руках – поўныя шклянкі, твары напружаныя цяжкім роздумам. Праходзіць хвілін з пяць і раптам за плотам пачынае брахаць сабака. Позірк аднаго з мужыкоў праясняецца і ён радасна крычыць:

– А наступны тост – за Шарыка!

## Тост



У цудоўнай азіяцкай краіне жыў шах, у якога было тры жонкі. Неяк запрасіў ён да сябе астролага, што прадказваў яму лёс:

– Ты даўно жывеш у мяне і заўсёды рабіў дакладныя прадказанні. У знак падзякі выбірай любую з маіх жонак.

Падыходзіць астролаг да першай жонкі:

– Скажы мне, колькі будзе двойчы два?

– Тры, - адказвае яна.

«Якая эканомная жонка!» – адзначыў астролаг.

Другая на тое ж пытанне адказала:

– Чатыры.

«Якая разумная жонка!» – адзначыў астролаг.

Трэцяя адказала:

– Пяць.

«Якая шчодрая жонка!» – адзначыў астролаг.

Якую ж жонку абраў астролаг?

Пасля пэўнай паузы:

– Ніхто не адгадаў! Ён абраў самую прывабную!

Вып'ем за нашых прыгожых дам!

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

***Новы год – сямейнае свята. А гэта значыць, агульныя клопаты, хваляванні і радасці. У доме пахне пірагамі, і ад гэтага на душы цёпла і ўтульна. Дзеці радасна ўзбуджаныя, мужчыны раз–пораз заглядаюць на кухню, а ў вас яшчэ столькі спраў!***

***Каб усё паспець і самой гаспадыні выглядаць чароўна, прыслухайцеся да нашых парад.***

***Размяркуйце абавязкі паміж членамі сям'і. Загадзя абдумайце, што прыгатаваць, чым парадаваць родных і сяброў. Не забывайцеся пры гэтым, што цяжкая ежа ноччу шкодная. Няхай ваш навагодні стол разнастаяць салаты, лёгкія закускі, стравы з гародніны.***

***Нават калі не чакаеце гасцей, накрыйце стол прыгожым абрусам, пакладзіце яркія сурвэткі, пастаўце на стол некалькі каляровых свечак. Упрыгожваннем стала з задавальненнем могуць заняцца дзеці.***

***Вячэру лепш за ўсё пачаць не пазней, як а 21–й гадзіне. Прыкладна а палове дванаццатай прыбярыце ежу са стала, пастаўце чыстыя талеркі. Новы год прынята сустракаць бакалам шампанскага.***

***Лёгкія віны добра спалучаюцца з дэсертам, марожаным, фруктовымі салатамі.***

### Торт "Віншаванне"

Спячы два каржы. Для першага спатрэбіцца: ***3/4 шклянкі мукі, 1 яйка, 1/4 бляшанкі згушчанага малака з цукрам, 1–2 вялікія лыжкі какава–парашку, 1/2 шклянкі цукру, 1 маленькая лыжка соды, гашанай воцатам.***

Для другога каржа спатрэбіцца той жа набор прадуктаў, але ***без какавы***.

Для крэму: ***масла або маргарын – 100 г, малако згушчанае – 4–5 вял. лыжак.***

Крэм гатуецца так: разагрэць масла ў каструлі да кансістэнцыі густой смятаны і ўзбіць венчыкам або драўлянай лапатачкай да атрымання пышнай эластычнай масы белага колеру. Затым, не перапыняючы ўзбівання, уліць у масла невялікімі порцыямі згушчанае малако і ўзбіваць на працягу 10–15 хвілін да атрымання аднароднай пышнай масы. Калі крэм "адсякаецца" (робіцца рабаваты), трэба злёгку падагрэць яго і ўзбіць зноў.

На вялікае пласкае блюда ўкладваецца першы корж (увасабляе зямлю) і змазваецца крэмам. На яго ўкладваецца другі (снег), верх яго таксама змазваецца крэмам і шчодра пасыпаецца цукровай пудрай.

Торт (асцярожна!) нажом размячаецца на сектары па колькасці тых, хто будзе сядзець за святочным сталом. У кожны сектар утыкаецца на палачках ярка размаляваныя імянныя канверты з віншаваннямі, пажаданнямі, жартаўлівымі гараскопамі. Нашу сімвалічную ёлку можна ўпрыгожыць яшчэ і невялічкімі пернічкамі, фігуркамі жывёл, выпечанымі з цеста, цукеркамі.

### Закуска "Навагодняя"

***4 селядцы, 4 цыбуліны, 3 яблыкі, 1 шклянка смятаны, 0,3 л малака, воцат, соль, цукар на смак.***

Салёную рыбу (селядзец, скумбрыя, стаўрыда) чысцяць, разбіраюць на філе і замочваюць на 3–4 гадзіны ў малацэ ў эмаліраваным або фарфоравым посудзе. Затым філе вымаюць, абсушваюць, заканчваюць раздзелку рыбы і наразаюць на невялікія кавалачкі.

Цыбулю дробна наразаюць і змешваюць з яблыкамі, надзертымі на буйную тарку. Заліваюць смятанай, перамешваюць, дадаюць воцат, соль і цукар. Гэтую масу разам з падрыхтаваным селядцом укладваюць у салатніцу і ўпрыгожваюць зелянінай.

### Закусачны торт "Ласунак"

***1 кг печані (гавяджай, свіной, печань птушкі)*** пракруціць праз мясарубку, дадаць узбітыя ***сырыя яйкі, муку, соль, перац***. Выпякаць бліны. Кожны блін праслаіць смажанымі на алеі ***морквай і цыбуляй*** і паліць ***маянэзам***. На верхні слой торта пакласці моркву з цыбуляй і заліць маянэзам, зверху пасыпаць дробна парэзанай ***зелянінай***. Гатуецца торт напярэдадні або за 3–4 гадзіны да падачы на стол.

### Шакалад

Змяшаць ***2 шклянкі цукру, 2 вялікія лыжкі какава–парашку з 1 шклянкай малака.*** Памешваючы, давесці да кіпення. Пра гатоўнасць даведваюцца, калі апускаюць кроплю гэтай вадкасці ў шклянку з халоднай вадой – павінна трымацца на паверхні.

Выліць у змазаную форму. Можна зрабіць шакалад з напаўняльнікам (вафлі, пячэнне, арэхі і да т. п.). Паставіць на холад.

**Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.**



***Калі вы збіраецеся выкарыстоўваць лёд для напіткаў і кактэйляў, у кожную ячэйку ванначкі для лёду пакладзіце ягадку вішні (з кампоту ці варэння). Потым заліце формачку вадой і стаўце ў маразілку. Такія кубікі лёду выглядаюць вельмі эфектна!***

ГАРАСКОП 3–9 СТУДЗЕНЯ

**Авен (21.03–20.04)**

Можаце рызыкнуць і атрымаць добрыя дывідэнды. Запланаванае падарожжа сарвецца не па вашай віне. Рамантычныя прыгоды лепш трымаць у тайне ад вельмі цікаўных навакольных.

**Цялец (21.04–21.05)**

Цяльцы – прафесіяналы ў сваёй справе – будуць адзначаныя начальствам і атрымаюць прэмію. У маладых узнікнуць першыя праблемы з размеркаваннем сямейных абавязкаў.

**Блізняты (22.05–21.06)**

Значныя дывідэнды чакаюцца ад фінансавых аперацый. Важныя навуковыя адкрыцці зробяць Блізняты–медыкі. Пад сямейным дахам можа адбыцца навальніца.

**Рак (22.06–23.07)**

Можаце рыхтавацца да атрымання вялікай сумы, якую прынясе завершаны раней праект. У канцы тыдня будуць добрыя навіны пра чарговыя фінансавыя поспехі, але марнатраўства не павінна быць у пашане.

**Леў (24.07–23.08)**

Пачняце выкананне важнага праекта. Тыдзень падорыць новыя карысныя дзелавыя кантакты і знаёмствы. Ваш хуткі раман з персонай N не вельмі спадабаецца чалавеку, які мае да вас моцныя пачуцці.

**Дзева (24.08–23.09)**

Спадзявайцеся толькі на сябе і ўстрымайцеся ад дапамогі навакольных. Работа не дасць узняць галаву, і ў выніку настане пахаладанне ў адносінах з каханым чалавекам.

**Шалі (24.09–23.10)**

Вы наблізіліся да ўзлёту ў кар'еры, якому дапаможа завяршэнне важнай работы. Сямейныя Шалі пачнуць буйны бізнес разам з бліжэйшымі сваякамі.

**Скарпіён (24.10–22.11)**

Вы павінны быць гатовыя да вялікіх выдаткаў, якіх запатрабуюць падтрыманне дамашняй гаспадаркі або далёкая паездка. Аднак вынікі паездкі акупяць усе вашы расходы і нават пакінуць з прыбыткам.

**Стралец (23.11–21.12)**

Тыдзень спрыяльны для ўсіх вашых спраў. У канцы яго нішто не перашкодзіць зрабіць кароткія цікавыя падарожжы, адпачыць, сустрэцца з даўнімі сябрамі.

**Казярог (22.12–20.01)**

Казярог атрымае энергію планет. Яны абяцаюць удачу ўсім бізнесменам. Настаўнікам не варта спяшацца мяняць работу. У сям'і спакой і дабрабыт.

**Вадалей (21.01–19.02)**

Вадалей выдатна справіцца з усімі справамі. Адносіны з каханым чалавекам акажуцца ў крызісным стане, але гэта ненадоўга, і ў вас хутка зноў будзе свята.

**Рыбы (20.02–20.03)**

Устойлівае фінансавае становішча і нядрэнныя вынікі ў бізнесе. Рамантычныя прыгоды – вясёлы лёс моладзі, а сямейных Рыб чакае ціхае шчасце ля дамашняга "ачага".

